# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» звароцваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*„Беларуская Зарніца“ ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, соцыяльнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці склíканьня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня II. Цана нумару 40 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

Царкоўна-Народны двутыднёвік
Орган Праваслаўных Беларусоў.

1-15 красавіка 1929 году

Падпісная цана: за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.; $^1/_2$ г.—4,50, 1 год—8 зл.

№ 4 (12)

Адрэс рэдакцыі: Вільня, вул. Летняя № 7.

## Два Шляхі.

Куды пайшлі з тайнай вячэры апосталы? Яны пайшлі з сваім вучыцелям і госпадам у Гэфсіманію, каб там маліцца, пераносіць зьдзекі і пакуту.

А куды пайшоў Іуда? Ен адзін пайшоў да ворагаў Іісусавых за воінамі і слугамі, каб узяць і прадаць ім свайго Вучыцеля і Госпада.

Ад аднае і тае-жа Божэсьцвеннае вячэры, з аднаго і таго-ж сьв. мейсца — якія два праціўлежныя шляхі!...

Куды-ж прывёў шлях апосталаў? Спачатку ў Гэфсіманію і на Галгофу,— пасьля на Еляон, далей — у сіонскі пакой, урэшце — на неба.

А шлях Іуды? Спачатку ён прывёў у палацы Каіафы, пасьля, праўда на кароткі час, завёў няшчаснага да царквы, — далей, вельмі хутка прывёў яго да дрэва, якое ён абраў за шыбяніцу для сябе, а з яго — у пекла!

Такі рожны лёс быў першых прычасьнікаў цела і крыві Хрыстовай! Ад чаго такая вялікая рожніца? Ад добрае і злое волі Добрая воля прывяла апосталаў на неба і злая воля прывяла Іуду на шыбяніцу і ў пекла. І Пётра грашыў, але праз шчырае пакаяньне атрымаў прабачэньне і быў устаноўлены ў сваім апостальскім дастоінсцьве. Тое самае было-б і з Іудаю, калі-б ён каяўся і сьлёзна маліўся.

Хто сёньня ідзе шляхом апостальскім? Ідзе той, хто, прычасьціўшыся цела і крыві Хрыстовай, лічыць сябе праз гэта неразлучна і назаўсёды злучаным з Хрыстом, а дзеля, гэтага ідзе за ім усюды — і на Фавор: у Гэфсіманію ідзе той, хто належыць да Спасіцеля ўсёй сваёй істотаю, стараецца ва ўсім быць да Яго падобным: думаць так як думаў Ен, гаварыць так, як гаворыў Ен, старацца жыць і памерці так, як жыў і прыняў сьмерць Ен!

Ці ня ідзе хто сяньня шляхам Іудзіным? Ідзе той, хто прымае цела і кроў Хрыстову, прымае яе бяз веры, як звычайны хлеб і віно, і лічыць сябе праз гэта нічым не абавязаным сваяму Спасіцелю. Хто ў царкве выказвае ня шчырую, але прытворную пашану да сьвятыні і, калі гавораць, аб невыкананьні закону, гатоў як Іуда запытацца: Ці ня я, Госпадзі? а па выхадзе з царквы бясстыдна прадае веру, закон, Бога і сумленьне.

Такі і цяпер шлях апосталаў і шлях Іуды! Перад намі абодва шляхі, і які-небудзь адзін з іх, мы абавязкава новінны абраць „Ежэ несьць са мною, на мя есьць", аказаў сам Гасподзь. З кім жа мы? не ў царква, а там гдзе нас спаткае пакуса, гдзе будзе магчымасьць атрымаць пашану і багацьце праз няпраўду, ці ісьці на крыж за праўду?

Мы ўжо абралі, што патрэбна, кожны з нас сказаў: я ня дам Табе пацалунка Іуды! Будзем запраўды ўстрымлівацца ад гэтага сатанінскага прадажнага пацалунку; У праціўным выпадку ён некалі будзе паліць нашыя вусны і сэрца сатанінскім агнём.

Кожны з нас абяцаў шанаваць Госпада, як пакаяўшыйся збойца на крыжы; будзем старацца абяцаньне свае выканаць. У адпаведных выпадках ня будзе нястачы, бо і цяпер сьвет той-жа, што і раней: увесь ляжыць у зьле і ўсіх да зла цягне. Будзем усімі сіламі змагацца з гэтым злом. Пакаяўшыйся збойца, калі-б яму ўдалося зыйсьці з крыжу жывым, бяз сумліву, прысьвяціў-бы ўсё cваё жыцьце Госпаду і стаўбы вярнейшым вучням Яго. Аддамо і мы ўсё нашае жыцьцё Яму, каб у хвіліну сьмерці пачуць ад Яго: „Сяньня са Мною будзеш у раі"!

Інакент Хэрсонскі.

# Сусьветная Ахвяра.

Ноч страшная, ноч душная, быццам перад грымотамі. За Кедранскім патокам у Гефсіманскім саду глыбокая цемра. Стуль нясецца нечый глыбокі-глыбокі ўздох, ад якога мімаволі робіцца жудасна. Чуваць нечый голас, але слоў пакуль-што разабраць нельга.

Праз нейкі час—зноў уздох, страшны, пакутны, Чутны словы: „Айцец мой! калі ня можа гэты келіх прайсьці міма мяне — дык п'ю з яго, — няхай будзе воля Твая!"

О, Божа, Божа! Гэта-ж Яго голас, гэта-ж Яго словы, якія выклікаюць страх! Гэта Ен моліцца ў саду Гефсіманскім. Гэта Ен гаворыць аб келіху сваіх блізкіх, нямінучых, страшэньнейшых крыжавых пакутаў.

За Кедранскім патокам мігацяць агні. Рухаецца нейкі натоўп. Чутны галасы, пагрозы. Натоўп зьбліжаецца. Ад сьвятла факелаў ужо можна разгледзіць зьбліжаючыхся: ўперадзе ўсіх — адзін з Яго вучняў, а за ім народ з аружжам і каламі, а так-жа архіярэі і старшыя з іудэяў. Хутка сьвятло ад факелаў упала і на Яго Бажэсьцвенныя рысы: Ен стаяў і чакаў.

Усемагутны Божа! Колькі было сьвятасьці і кротасьці ў Яго абліччы!

I вось той самы вучань, які прывёў весь гэты натоўп, падыходзіць да Яго і кажучы: „радуйся, вучыцель" цалуе Яго. Сэрца падсказвае, што пацалунак гэты фальшывы, прадажны.

А Ен, каторага прадавалі, ласкава так кажа сваяму прадажніку: „Прыяцель мой, рабі тое, пашто прышоў".

Тады натоўп абступіў Яго. Яго вязалі быццам злодзея, быццам разбойніка.

Бачучы гэты гвалт, гэтую страшэнную несправядлівасьць, адзін з Яго вучняў схапіў нож і адсек вуха ў аднаго слугі архіярэйскага, які найбольш зьдзекаваўся з Спасіцеля. Як-жа на гэта зарэагаваў Бажэсьцвенны Мучальнік? Ен сказаў сваяму вучню: „улажы нож твой назад у похву, бо кожны, хто нажом бароніцца ад нажа і згіне",

А пасьля, зьвярнуўшыся да народу, кажа: „Вы як на збойцу вышлі з аружжам і каламі. Я-ж кожны дзень сядзеў з вамі ў царкве і вучыў вас, — чаму-ж вы ня бралі мяне тады?"

Як не разарваліся сэрцы людзкія, як не асьлеплі вочы іх на векі ад такога страшэннага абразу.

Раньніцай Яго засудзілі на сьмерць, —сьмерць цяжкую, сьмерць мучальніцкую.

Усе вуліцы былі запоўнены народам. Яго, абкружанага жаўнярамі, вялі на сьмерць. Ен нёс цяжкі крыж, на якім павінны былі раскрыжаваць Яго,—а Ен быў такі слабы, такі зморапы, што ня раз падаў пад цяжарам свае ношы.

Добры твар Яго быў весь у крыві і ад ударау жаўнярою па твары і па галаве, і ад вянка з калючага цёрну, які надзелі на Яго галаву.

За ім рухаўся натоўп. Чутно было, як у гэтым натоўпе плакалі жанчыны. А Ен паглядзеў на іх і кажа: „Дачкі Ерусалімскія! ня плачце аба мне, плачце аб сабе і аб вашых дзецях: падыходзяць дні, калі вы скажаце: шчасьлівыя няплодныя, шчасьлівыя утробы, якія няродзяць і сасцы, якія ня кормяць. Тады вы скажаце гарам: упадзіце на нас і пакрыйце нас!"

Вось Ен ужо на гары сьлёз, гары касьцей.

Раздаецца глухі стук малатка і трэск касьцей: гэта прыбіваюць да крыжу Яго рукі і ногі.

Крыж з прыбітым да яго Мучальнікам падымаюць...

З натоўпу нясецца гістэрычны, душу разьдзіраючы плач: Гэта плача Яго маці — найсьвяцейшая Дзева Марыя.

У працягу трох гадзінаў Ен пераносіў на крыжы да нічога не параўнаныя мучэньні. Але Ен яшчэ жыў. Сонца касымі праменьнямі яшчэ асьвятляла Яго бляды бляды твар. Але вось раздаюцца Яго апошнія бажэсцьвенныя словы: „Айцец! у рукі Твае перадаю дух Мой!...

Бажэсцьвенная душа аддзялілася ад цела і адыйшла ў абоймы Прадвечнага Айца. У гэты момант сонца пагасла. Густая цемра спавіла зямлю.

Натоўп задрыжэў і затросься, бо задрыжэла і затраслася гара, на якой Ен паміраў, задрыжэлі і затрасьліся сьцены Ерусаліму; дрыжэла і траслася зямля. Скалы і каменьні далі трэшчыны; гудзелі грымоты, а бліскучыя маланкі яшчэ больш павялічывала гэты агульны ні з чым непараўнаны хаос.

Гэта так рэагавала прырода на зробленае на зямлі нябывалае злачынства, якога сьвет ня бачыў ад пачатку свайго існаваньня.

**А. К.**

# Сьмерць Праведніка.

*Клаўдыя Прокула Фульвіі Герсіліі, з прывітаньнем!*

Ты просіш мяне, мой верны друг, апісаць табе падзеі, быўшыя пасьля нашага расстаньня; чуткі аб іх даляцелі і да цябе, і таямнічасьць, якой яны абкружаны, выклікае ў табе трывогу аб маім лёсе. Слухаючы тваяго поўнага любві заклiку, пастараюся сабраць раскіданыя зломкі ланцуга маяго жыцьця; калі ў гэтым апісаньні ты ўбачыш абставіны, якія зьдзівяць цябе, дык успомні, што вышэйшыя творчыя сілы абкружылі густою ценьню нашае нараджэньне, існаваньне і сьмерць і што нельга слабым сьмертным унікнуць у таямнічасьць іх лёсу.

Я ня буду ўспамінаць аб першых днях майго жыцьця, так шчасьліва праляцеўшых у Нарбоне пад бацькаўскай страхой у суседзстве з табою, дарагі друг. Ты ведаеш, што калі мне мінула шаснаццаць гадоў, я была аддана замуж за рымляніна Понція, патомка старога і вядомага роду, займаўшага тады ў Ібэрыі важную ўрадовую пасаду. Ледзь мы вышлі з храму, як мне ўжо трэба было ехаць з Понціям у правінцыю, яму даручаную; ня весела пайшла я за сваім мужам, які па сваіх гадох мог-бы быць маім бацькам... Я сумавала па вас, ціхая бацькава хата, шчасьлівае неба Нарбоны, цудоўныя помнікі, сьвежыя гаі мае бацькаўшчыны; я вітала вас вачыма поўнымі сьлёз... Першыя гады майго замужаства прайшлі спакойна; неба дало мне сына; ён быў для мяне даражэй сьвету дня; я падзяліла

мой час паміж выкананьнем сваіх абавязкаў і прыемнасьцямі, дазволенымі жанчыне. Сыну маяму мінула пяць гадоў, калі Понцій, па асаблівай міласьці імпэратара, быў вызначаны праконсулам Іудэі. Мы адправіліся з нашымі слугамі па маляўнічай дарозе, я не магла наглядзецца на гэтую старонку, багатую і ўраджайную, якою муж мой павінен быў кіраваць ад імя Рыму, уладара народаў. У Ерусаліме мяне абкружылі надзвычайнай пашанай, але я жыла ў поўнай адзіноце, бо жыды, падазроныя і гордыя, ненавідзяць чужаземцаў-паганцаў, як яны нас называюць, кажучы, што мы зьневажаем сваёй прысутнасьцю зямлю, пераказаную ім Богам іх продкаў. Я праводзіла час з маім сынам, сярод маіх ціхіх садоў, дзе мірты перапляталіся з фісташкамі, дзе зграбныя пальмі, прыгажэйшыя пальмаў Дэлосу, узвышаліся каля цьвітучых памяранцавых, гранатавых дрэваў, там пад гэтым сьвежым ценям, я вышывала пакровы для алтароў і чытала вершы Віргілія, такія салодкія і для слуху, і для сэрца. У рэдкія хвіліны, якія муж мой мог праводзіць са мной, ён быў сумным і хмурным; якой ні цьвердай была яго рука, яна была яшчэ вельмі слабаю, каб утрымаць у пакоры гэты народ, бýўшы так доўга незалежным, бунтоўны ад прыроды, падзеляны на тысячу неспакойных сэктаў, якія згаджаліся з сабой толькі ў адным—у бешанай нянавісьці да Рыму. Адна толькі з больш значных сем'яў Ерусаліму выказывала мне поўную прыязнь; гэта была сям'я кіраўніка сінагогі: я знаходзіла вялікую прыемнасьць у адведваньні яго жонкі Саламеі, узору дабраты і кротасьці, і іх дванаццацігадовай дачкі Сэміды, прыгожай як розы Саарона, аздабляючыя яе косы. Часамі яны гаварылі мне аб Богу сваіх продкаў, чыталі мне некаторыя адрыўкі з сваіх сьвятых кніг... І прадстаў сабе, Фульвія! Успамінаючы хвалы, якія я чула з вуснаў Саламіі, Найвышэйшаму Богу Якава, гэтаму Богу адзінаму, вечнаму, недаступнаму страсьцям і парокам, якім так часта мы даем боскія імёны на аўтарох нашых, міласэрдаму, усемагутнаму, злучаючаму сілу і благасьць, чыстасьць і вялічча, успамінаючы голас Сэміды, зьліваўшыйся з зыкамі гарфы, у пяяньні сьвятых гімнаў, твораў цара ізраільскага, якія я ў свой чарод прабавала на маёй ліры, як часта тады ў маёй адзіноце я станавілася на калені ля калыскі майго сына і зварочвалася, амаль проціў сваё волі, молячыся аб мілых сэрцу, да гэтага Бога, якому сам лёс з сваёй жалезнаю рукою пакараецца, як раб уладару, і я ўставала заўсёды моцнаю духам і пацешанаю. З пэўнага часу Сэміда стала нездарова. Аднэй раньніцы, калі я прачнулася, мне сказалі, што яна раптоўна памерла. Прыгнечаная горам, абняўшы маяго сына, я пасьпяшыла да іх, каб плакаць разам з няшчаснаю Саламэяй. Дайшоўшы да вуліцы, дзе яны жылі мае людзі ледзьледзь маглі праціснуцца з насілкамі: бо флейтчыкі, пеўчыя і натоўп народу абкружылі дом. Застанавіўшыся ля дзьвярэй, я заўважыла, што натоўп расступіўся перад грамадой ідучых, на якую ён глядзеў з зьдзіўленьнем, цікавасьцю і пэўнай пашанай. На чале гэтае грамады ішоў бацька Сэміды, але замест гора твар яго выражаў дзіўную надзею, для мяне не зразумелую, каля яго ішло тры чалавекі, бедна апраненыя, з простай і грубай павярхоўнасьцю, за імі, завярнуўшыся ў мантыю, ішоў чалавек, яшчэ ў цьвеце веку... Я падняла на яго вочы і раптам апусьціла іх, як перад моцным блескам сонца; мне здалося, што праменьні каронай абкружаюць яго валасы, падаючыя на плечы, як у жыхароў Назарэту. Нельга выразіць, што я пачула, глянуўшы на яго, гэта было нейкае магутнае прыцяганьне, нешта салодкае разьлівалася ва ўсім яго твары, а разам з тым мне рабілася жудасна, бо з яго вачэй выходзіў нейкі надзвычайны блеск. Я пайшла за ім, сама ня ведаючы, куды іду. Дзьвер адчынілася і я ўбачыла Сэміду, яна ляжала на пасьцелі, абкружаная сьвяцільнікамі, яна была прыгожа нябесным хараством; але лоб яе быў бялей лілій, рассыпаных каля яе ног, і сьмерць палажыла ўжо сваю пячатку на яе вуснах. Саламія сядзела каля яе моўчкі, амаль няпрытомная; яна, здавалася, нават і ня бачыла нас, Іаір, баць-

ка дзяўчыны. кінуўся да ног прыйшоўшага, застанавіўшагася каля пасьцелі І, паказваючы на нябошчыцу, закрычаў: „Госпадзі! дачка мая ў руках сьмерці! але, калі Ты пажадаеш, яна аджыве!“

Я задрыжэла пры гэтых словах; сэрца маё быццам прыкулася да кожнага руху незнаёмага. Ен узяў руку Сэміды, паглядзеў на яе сваімі магутнымі вачыма і сказаў: „устань, дзіця мае“.

Фульвія! яна паслухала! Сэміда прыпаднялася на сваёй пасьцелі, падтрымліваная нябачанай рукой, вочы яе адчыніліся, вусны расьцьвілі жыцьцём. яна працягнула рукі і прамовіла: „мама!“. Гэты голас уваскрасіў Саламію матка і дачка пачалі сьціскаць друг дружку, а Іаір, лежучы на зямлі і абсыпаючы пацалункамі берагі вопраткі таго, каго называў вучыцелям, паўтараў: „што трэба зрабіць, каб служыць Табе! каб атрымаць жыцьцё вечнае?“

**Ведаць і выконываць два правілы закону—любіць Бога і людзей!**

Сказаўшы гэта, ён зьнік з нашых вачэй, як эфірны сьветлы цень. Я стаяла на каленах, сама таго ня ведаючы; устаўшы, як пад уплывам сну, я вярнулася дамоў. Пры вячэры я расказала Понцію ўсё, чаму была сьведкаю; ён сказаў задумлёна: ты бачыле Ісуса Назараніна; гэта прадмет нянавісьці фарысеяў, садукеяў, партыі Ірада і гордых лэвітаў храма; нянавісьць гэтая павялічваецца з кожным днём і помста іх вісіць над Яго галавой, а між тым словы Назараніна—словы мудраца і цуды Яго—цуды запраўднага Бога.

За што-ж яны ненавідзяць яго. За тое, што ён паказывае ім на іх парокі; —я чуў, як Ен казаў аднаго разу: „пабеляныя дамавіны, параджэньні гадзіны, казаў ён фарысеям, вы ўскладаеце на плечы братоў вашых цяжар, да якога не хацелі-бы самі дакрануцца канцом пальца, вы плоціце падаткі за травы, мяту і кмін, але мала клапоціцеся аб адданьні доўгу закону веры, справядлівасьці і дабра“. Сэнс гэтых словаў вельмі, вельмі глыбокі; яны разлавалі гэтых подлых людзей, Назараніну пагражае небясьпека.

— Але ты будзеш бараніць Яго, закрычала я горача, ты маеш тут вялікую ўладу!

—Мая ўлада ня што іншае, як здань перад гэтым бунтоўным і каварным народам... Між тым я-б страшэнна мучыўся душой, калі-б быў змушаны праліць кроў гэтага мудраца. З гетымі словамі Понцій устаў і вышаў, глыбака задумлёны; я засталася адна, агорненая цёмным, нявыразным сумам.

Пасха зьбліжалася. У гэтае сьвята, якое так шануюць жыды, у Ерусаліме збіралася вельмі шмат народу, з усіх канцоў Іудэі, каб урачыста прынесьці ў храме ахвяру.

У чацьвер, на пярэдадні гэтага сьвята, Понцій сказаў мне з болем у галасе:

„Будучыня Ісуса вельмі сумная, галава Яго ацэнена і сяньня ўвечары Ен можа быць адданы ў рукі архіярэяў“.

Я задрыжэла пры гэтых словах і паўтарыла: „але ты абароніш Яго“?

—Ці магу я гэта зрабіць?—хмурна сказаў Понцій — лёс, які Платон прадсказаў сваяму Праведніку, здаецца пагражае Ісусу; Яго будуць прасьледаваць, здрадніцкі прададуць і засудзяць на жорсткую сьмерць... Так-то богі зьдзекуюцца над слабасьцю людзей...

Настаў час адпачынку, але ледзь я схіліла галаву на падушку, як таемныя мары абкружылі мяне. Я бачыла Ісуса, я бачыла Яго такім, як Саламія апісвала мне сваяго Бога: твар Яго сіяў, як сонца, ён узносіўся на крылах херувімаў, вогненых слуг Яго: спыніўшыся ў аблаках. Ен, здавалася, гатовы быў судзіць пакаленьні народаў, сабраныя каля ног Яго. Узмахам рукі Ен аддзяліў добрых ад благіх; першыя ўзносіліся да Яго сіяючыя вечнай моладасьцю і нябесным харастовм; а другія апускаліся ў бэзну агня, перад якім нішто агонь Эрэва і Флегетона, і калі Судзьдзя, паказваючы нн раны, пакрываючыя яго цела, казаў ім грозна: „Зьвярніце кроў, якую я праліў за вас!“ Тады гэтыя няшчасныя прасілі горы закрыць іх і зямлю праглынуць іх... Як цяжка ім было адчуваць сябе несьмяротнымі, але толькі для мучэньняў... О! які сон, ці вярней кажучы, якая праява! Як толькі зара

зарумяніла вярхі храмаў, я ўстала з сэрцам яшчэ сьціснутым ад жаху; я села ля вакна, каб падышаць сьвежым ранешным паветрам. Мне здалося, што страшэнны роў выходзіў з цэнтру горада, крыкі, праклёны, страшнейшыя, як роў акіяна падчас віхуры, даходзілі да мяне; я прыслухалася, сэрца страшэнна білася; раптам я заўважыла, што гэты роў зьбліжаецца ўсё балей і балей, што пад нагамі нязьлічанага натоўпу стогнуць мармуровыя сходы, вядучыя ў прэтар. Я схапіла на рукі сына, які гуляў каля мяне, укруціла яго ў посьцілку і пабегла да мужа. Дайшоўшы да ўнутранае дзьверы судзілішча, і чуючы за ёй галасы, я не адважылася ўвайсьці. але прыпадняла заслону. Які абраз, Фульвія! Понцій сядзеў на сваім пасадзе з слановае косьці, ва ўсёй пышнасьці, якой Рым абкружае сваіх прадстаўнікоў, але пад бясстрашным выразам, які ён стараўся надаць свайму твару, я адгадала страшэнную трывогу; перад ім з зьвязанымі рукамі, у падзёртым гвалтам адзеньні, з акрываўленай галавой, стаяў Іісус Назаранін; спакойны, нярухомы; у яго рысах ня было ні гордасьці, ні страху; Ен быў ціхі, як нявіннасьць; пакорны, як ягня; але Яго кротасьць праймала мяне жахам: бо мне чуліся яшчэ словы майго сну: Зьвярніце кроў, якую я праліў за вас! Увакруг яго гудзеў азьвярэўшы натоўп, прыцягнуўшы Яго на суд; да натоўпу далучыліся некалькі паліцыянтаў, частка духавенства і фарысеяў; іх лёгка было пазнаць па пэргамэнтным табліцам, з напісамі рожных тэкстаў закону, якія яны насілі на лбах; ад усіх гэтых страшных твараў веяла нянавісьцю; здавалася, што полымя пекла адсьвечывалася ў іх вачох і што духі Тэнару злучалі свае галасы з дзікімі крыкамі бешанага натоўпу; урэшце, па знаку Понція, усё сьціхла.

Чаго вы хочаце ад мяне, сказаў ён.

Мы дамагаемся сьмерці гэтага чалавека, Іісуса Назараніна, сказаў адзін сьвяшчэньнік ад імя народу. Ірад пасылае Яго да цябе, каб ты выняс прысуд.

У чым-жа яго віна? Пры гэтым пытаньні зноў загудзелі крыкі: Ен прадсказваў разбураньне храму, Ен называе сябе царом іудэйскім, Хрыстом, Сынам Божым; Ен абражае першасьвяшчэньнікаў, сыноў Арона, казалі левіты, хай будзе раскрыжаваны, паўтарыў азьвярэўшы народ.

Гэтыя галасы сьмерці да гэтае пары яшчэ гудзяць у маіх вушах і абраз, бязьвіннае ахвяры, з тае хвіліны, бязупынна стаіць у мяне перад вачыма. Понцій узвысіў голас, і ласкава сказаў Яму: і так, Ты цар іудэйскі.

—Ты кажаш гэта, адказаў Ен.

—Ты Хрыстос, Сын Божы?

Іісус нічога не адказаў на гэтыя словы, крыкі ўзнавіліся яшчэ мацней, як уперад. Аддай Яго нам, на крыж Яго! Понцій прымусіў іх урэшце за маўчаць і сказаў ім: я не знаходжу ніякае віны ў гэтым чалавеку і хачу адпусьціць Яго.

Аддай Яго нам, раскрыжуй Яго! Я не магла слухаць далей, паклікала нявольніка і паслала яго да мужа, просячы яго на хвіліну прыйсьці. Понцій заразжа пакінуў суд і прыйшоў да мяне; я ўпала перад ім на калені, кажучы: дзеля ўсяго, што табе дарага, дзеля гэтага дзіцяці, сьвятога залогу нашага злучэньня, не дакладай свае рукі да сьмерці гэтага праведніка, падобнага да багоў несьмяротных; я бачыла Яго ўночы, у цудоўным сьне, ва усёй яго боскай славе; Ен судзіў людзей, дрыжэўшых перад Ім, і між ценямі нешчасьлівых, укінутых у агонь, я пазнала тых, якія цяпер дамагаюцца Яго сьмерці; сьцеражыся падняць на Яго руку. О! вер мне, адна капля крыві будзе тваім прысудам.

Усё, што адбываецца, праймае жахам мяне самога, адказаў Понцій; але што я магу зрабіць? Рымская кагорта вельмі малая. і гэта абарона вельмі слабая процiў гэтага народу, быццам ватхнёнага бесамі. Згуба пагражае нам... і гэты суд падобны да храму Эўменія, дзе чакаюць не справядлівасьці, але помсты. Але супакойся, Клаўдзія, ідзі ў сад, займісь нашым сынам, твае вочы ня створаны для гэтых крывавых сцэнаў. З гэтымі словамі ён вышаў. Іісус быў яшчэ перад судом! Ен стаўся прадметам кпінаў і зьдзекаў народу і воінаў,

іх ярасьць раўнялася Яго бязьмежнай цярплівасьці. Понцій у задумленьні вярнуўся на свой пасад. Пры яго зьяўленьні галасы: сьмерць! сьмерць! загудзелі яшчэ мацней. Па старому звычаю, правіцель, на сьвята Пасхі заўсёды звальняў аднаго з прыгавораных на сьмерць, але выбіраў сам народ. Бачучы ў гэтым магчымасьць спасьці Ісуса Понцій сказаў голасна: каго вам адпусьціць на сьвята, Варавву ці Ісуса, званага Хрыстом? Адпусьці Варавву, загудзеў натоўп.

Варавва быў бандыт і забойца, ведамы ўсёй ваколіцы сваімі жорсткасьцямі.

Понцій зноў спытаў: што-ж мне рабіць з Ісусам Назаранінам? „Хай будзе раскрыжаваны!"

Але што ж благога зрабіў Ен? Азьвярэўшы натоўп паўтарыў: хай будзе раскрыжаваны.

Понцій апусьціў галаву ў распачы; бязупынна ўзрастаўшая нянавісьць народу, здавалася паграждала яго ўладзе, — уладзе рымскага імені, якою ён так даражыў і якая ў Ерусаліме ня мела іншае абароны, апрача свае славы, бо вельмі нязначная частка воінаў прысягнула арлом нашым. Трывога ўзрастала з кожнаю хвілінай; ніколі бурны шум цырку, ніколі дыспуты форуму не рабілі такога ўражаньня на мой слух; нідзе ня было спакою, ён быў толькі ў вачох ахвяры; зьнявагі, катаваньні, зьбліжэньне сьмерці, нішто не магло затуманіць гэтага яснага погляду; гэтыя вочы, зьвярнуўшыя жыцьцё дачцы Іаіра, зварочваліся на сваіх катаў поўныя любві і спакою: Ен мучыўся, бязумоўна, але мучыўся з радасьцю, і душа Яго, здавалася, адлятала да нябачаных аўтароў, як чыстае полымя ахвяры. Прэтар была напоўнена народам; ён імкнуўся, гэты бурлівы паток, ад вяршыны Сіону, дзе ўзносіцца храм, да падножжа суда, і кожную хвіліну новыя галасы далучыліся да гэтага пякельнага хору. Муж мой, змораны, спалоханы, урэшце згадзіўся. О! праклятая хвіліна. Понцій устаў, унутраныя мучэньні адбіліся на яго твары; сымбалічным рухам ён памачыў рукі ў судзіне, поўнай вады, і сказаў: я ня вінен у крыві гэтага праведніка!

Хай падзе яна на нас і дзяцей нашых! Заравеў бязумны народ. І, абкружыўшы Ісуса, каты пацягнулі Яго на сьмерць; я пайшла за імі... Раптам туман засланіў мне вочы, ногі падагнуліся, сэрца сьціснулася, мне здалося, што жыцьцё пакідае мяне... Я ачнулася на руках маіх жанчын, каля вакна, выходзіўшага на двор суда; я глянула і ўбачыла сьвежыя сьляды пралітай крыві. Тут катавалі Назараніна, сказала адна нявольніца, а там вянчалі Яго цярном, сказала другая, жаўняры зьдзекаваліся над Ім, называючы Яго царом іудэйскім, і білі Яго па твары; цяпер Ен паміраe, дадала трэцяя.

Кожнае з гэтых словаў, як нож, рэзала маё сэрца; дакладнасьці гэтага страшнога зладзейства падвоілі мае гора; па болі сваяго сэрца я адчувала, што ў падзеях гэтага дня было нешта зьверхнатуральнае. Неба, здавалася, адпавядала ўсяму гэтаму: вялізарныя хмары з страшнымі зарысамі віселі над зямлёю і маланкі вылятал з іх; горад, такі гучны на раньніцы, быў ціхі і пануры, быццам сьмерць падняла над ім свае чорныя крылы.

Жудаснасьць прыкавала мяне да аднаго мейсца; прытуліўшы да грудзі мае дзіця, я чакала, сама ня ведаючы чаго. Да дзявятае гадзіны дня цемра згусьціла паветра, зямля затраслася, усё задрыжэла; можна была падумаць, што сьвет разбурыцца і зноў настане хаос; я ўпала на зямлю. У гэты час, адна з маіх кабет, іудэйка па паходжаньню, вайшла ў пакой, зьбялеўшая, з няпрытомнымі вачыма, яна закрычала: настаў апошні дзень! Бог абвяшчае гэта цудамі. Заслона храма, хаваўшая сьвятыню сьвятых, разарвалася на дзьве часткі; гора сьвятому мейсцу; кажуць, што дамавіны паадчыняліся і шмат хто бачыў паўстаўшых праведнікаў, згінуўшых у Ерусаліме прарокаў і сьвяшчэньнікаў, ад Захарыя, забітага паміж храмам і ахвярнікам, да Ераміі прадсказаўшага канец Сіону.

Мертвыя абвяшчаюць нам гнеў Божы! Кара Найвышэйшага разьліваецца з хуткасьцю полымя. Пры гэтых словах мне здавалася, што змыслы пакідаюць мяне; я ўстала, ледзь перадзьвігаючы но-

гі, і выйшла на сходы; там я спаткала сотніка, браўшага удзел у катаваньні Ісуса; гэты сотнік быў вэтэран, пасівеўшы ў войнах з гярманцамі і спартамі, ніколі больш адважнае сэрца ня білася ў больш цьвердай грудзі, але ў гэтую хвіліну ён быў расстрояны і відаць было, што ён моцна каецца; я хацела распытацца яго, але ён прайшоў міма, паўтараючы, як няпрытомны: Той, каго мы забілі, быў запраўды Сын Божы.

Я вайшла ў вялікую залю; там сядзеў Понцій, засланіўшы твар рукамі; падняўшы галаву пры маім зьяўленьні, ён сказаў з роспачу: ах! чаму я не паслухаў твае рады, Клаўдыя, чаму я не бараніў гэтага мудраца сваім жыцьцём! Мае подлае сэрца не зазнае больш спакою. Я не адважылася адказаць, у мяне ня было пацехі для гэтага няшчасьця. Ціша перарывалася толькі ўдарамі пяруна, жудасна аддаваўшыміся пад сводамі палацу. Ня гледзячы на гэтую віхуру нейкі старац зьявіўся каля нашае дзьверы, яго ўвялі да нас, ён са сьлязьмі кінуўся пад ногі майго мужа... Імя мае Язэп Арымафейскі, я прыйшоў прасіць цябе дазволіць мне зьняць з крыжу цела Ісуса і пахаваць яго ў маім саду!!

Вазьмі, адказаў Понцій, не падымаючы вачэй. Старац вышаў; я бачыла, што да яго далучылася грамада жанчын у даўгіх пакрывалах, чакаўшых яго пад портыкам.

Так скончыўся гэты ракавы дзень. Ісус быў пахаваны у пячэры вырытай у скале, каля ўваходу была пастаўлена варта. Але, Фульвія, на трэці дзень, сіяючы славаю і перамогаю, Ен зьявіўся над гэтай магілай! Ен уваскрос, споўніўшы свае абяцаньне, зьявіўся сваім вучням, прыяцелям і, урэшце, усяму народу. Так сьведчаць Яго вучні і гэта сьцверджана іх крывёй, пралітай перад пасадамі князёў і судзьдзяў. Але самае вернае пасьведчаньне гэта Яго навука, даручаная некалькім рыбакам Тывэрыяды; гэтыя людзі, простыя і ціхія, раптам зрабіліся красамоўнымі і адважнымі; новая вера ўзрастае, як цяністае дрэва, карэнь якога пакрые хутка ўсе карані імя, рэлігіі і славы Рымлян.

З таго часу муж мой ня ў чым ня мае посьпеху; ён абвінавачаны ў сваім учынку сэнатам і самім Тывэрыям, ён прадмет нянавісьці іудэяў, жыцьцё яго атрута і мучэньні. Мая адзінота павялічылася. Саламія і Сэміда глядзелі з жахам на жонку ката сваяго ўлюбленага Госпада, бо яны зрабіліся вучаніцамі Таго, хто зьвярнуў іх друг другу. Я бачыла, ня гледзячы на іх дабрату, жах у іх тварах пры маім зьбліжэньні і хутка перастала хадзіць да іх. Я заглыбілася ў маёй адзіноце ў бязупыннае чытаньне навук Ісуса, расказаных Саламіяй і сьпісаных мною. О, дарагая! Як мала і пуста мудрасьць нашых жрацоў перад гэтай навукай, якую толькі адзін Бог мог абвесьціць зямлі; о! як глыбакі і мудры гэтыя словы, якім спакоям і дабратой вее ад іх; перачытываньне іх — гэта мая адзіная пацеха.

Праз накалькі месяцаў Понцій быў пазбаўлены свае ўлады, мы вярнуліся ў Эўропу; блукаючыся з гораду ў горад, ён нёс у сваёй душы цяжар суму і тугі. Я пайшла за ім (жонка Каіна, кажуць жыды, пайшла за сваім выгнаным мужам), але якое мае жыцьцё з ім! Прыязьні і давер'я няма паміж намі. Ен бачыць ва мне сьведку, жывы ўспамін сваяго праступленьня; я бачу падымаючыйся паміж намі акрываўлены крыж, на якім ён, судзьдзя беззаконны, раскрыжаваў невінаватага і Праведнага; я не адважваюся падняць на яго вочы; яго голас, голас прачытаўшы прысуд, ледзяніць мае сэрца; і калі ён пасьля стала мые рукі, мне здаецца, што ён мочыць рукі ня ў чыстую ваду, але ў гарачую кроў, сьляды якое ня змываюцца. Адноўчы я хацела гаварыць яму аб раскаяньні і дабраце Усемагутнага; але я ніколі не забудуся ні яго зьверскага погляду, ні слоў, вырваўшыхся з яго вуснаў... Хутка мой дарагі сын памёр у маіх абаймая і я ня плакала па ім. Шчасьлівы, ён пазбавіўся праклёну, вісячага над намі; ён скінуў з сябе цяжар імені свайго бацькі. Нашчасьці ўсюдымі бягуць за намі, бо ўсюдымі ўжо ёсьць хрысьціяне; тут нават, у гэтай дзікай старонцы Rhedan, дзе мы знайшлі прыпынак у туманных марскіх

жылаў, і тут я чую з якою адразай вымаўляецца імя майго мужа... Я даведалася, што апосталы, разьвітваючыся друг з другам перад выхадам на пропаведзь Эвангельля, напісалі ў правілах сваее веры гэтыя страшныя словы помсты: „Ен цярпеў пры Понціі Пілаце“ страшная анафема, якую будуць паўтараць вякі: Passus est sub Pontio Pilato! (раскрыжаваны пры Понціі Пілаце). Бывай, Фульвія, пашкадуй мяне; хай Правасудны Бог дасьць табе ўсё шчасьце, якога мы некалі жадалі друг дружцы, — бывай!



# Гора мацеры.

Сьвежая магіла
Выкапана ў доле.
Сумны звон царкоўны
Ціха млее ў полі,

Хваляю гаротнай
Круціцца па гаю,
Смутным, смутным жалям
Душу запаўняе.

Стогне звон хаўтурны,
Як жывы галосіць...
Аб чыёй-жа сьмерці
Весткі ён разносіць!

За сялом, у полі
У жоўценькім пясочку
Пахавала матка
Маладую дочку

Зьнікла яе радасьць, —
Старасьці апора, —
І няма уцехі
У мацярынскім горы.

Ей ніхто ня верне
Дарагой дачушкі!
Плачуць па дзяўчыне
Сваякі і дружкі,

Ганначку забудуць
Сваякі і дружкі
Толькі не забудзе
Матанька дачушкі.

І час не залечыць
Сэрца яе раны
І з вялікім горам
Сойдзе ў гроб драўляны.

**Я. Колас.**

# Аб папскай непагрэшнасьці.

## Прамова япіскапа Штросемайера, сказаная ў 1870 г. на Ватыканскім саборы, на якім пад старшынством Папы Пія IX абсуджвалася пытаньне аб папскай непагрэшнасьці.

(Канец).

Можа вы скажаце, што гэтыя лжэ-папы не запраўдныя? Добра; але ў такім выпадку, калі на працягу пяцідзесяцёх гадоў рымскі пасад быў заняты анты-папамі, дык як вы перахоўваеце сувязь япіскапскага праемства? Ці-ж можа наша царква на працягу ста пяцідзесяцёх гадоў існаваць без главы і заставацца без правадыра? Цяпер глядзіце; большая частка гэтых антыпапаў займаюць мейсца ў генеалёгічным дрэве папства, і напэўна тыя самыя, якіх апісаў Бароні, бо нават Джэнебрардо, вялікі льсьцец папства, адважыўся заўважыць у сваіх летапісах (901): гэта стагодзьдзе няшчасьліва, бо на працягу амаль 150 гадоў папы ня мелі нават і цені тых добрых рысаў, якія мелі іх папярэднікі і былі хутчэй адступнікамі (Apostates) чым апосталамі (Apostoles). Можна сабе прадставаць, як павінен быў чырванець выдатны Бароні, расказваючы патомству аб учынках гэтых рымскіх япіскапаў. Кажучы аб Іаане XI, законным сыне Сяргея і Мароцыі, ён напісаў у сваіх летапісах наступныя словы: сьвятая царква, г. зн. рымская, была дзёрзка зьняважана такім чудовішчам. Іаан XII, абраны папаю ў васямнаццаці-гадовым веку—дзякуючы прыдворным, быў зусім ня лепшы ад сваяго папярэдніка. Мне сорамна, пачэсныя браты, абражаць ваш слух такімі гадасьцямі. Я маўчу аб Аляксандры VI, бацьку і каханку Лукрэцыі; я адварачваюся ад Іаана XXIII (1416), які не прызнаваў несьмяротнасьці душы і быў пазбаўлены сану канстанцкім саборам.

Некаторыя скажуць, што гэты сабор быў толькі прыватны; няхай так, але калі вы не прызнаеце яго аўтарытэту, дык, па законах лёгікі, павінны прызнаць незаконным абраньне Марціна V (1417), адбыўшаеся на гэтым саборы. Што зробіцца тады з папскім праемствам? Ці зможаце вы адшукаць яго ніці?

Я не кажу аб забурэньнях і расколах, якія бясчэсьцілі тады царкву. У гэтыя цяжкія дні рымскі пасад быў заняты двама, а часамі трыма супернікамі. Хто з іх быў запраўды папа? Паўтараю яшчэ раз, калі вы цьвердзіце аб непагрэшнасьці сучаснага рымскага япіскапа, дык павінны прызнаць непагрэшнымі і ўсіх яго папярэднікаў бяз усякіх выняткаў. Але ці можаце вы гэта зрабіць, калі гісторыя цьвердзіць, што папы мыляліся ў сваёй навуцы? Ці можаце вы гэта зрабіць і давесьці, што карысталюбцы, забойцы, сьвятакупцы — папы былі заступнікамі Хрыста; гэта значыла-б кінуць гразёй Яму ў твар. (Крыкі: „Далоў з кафедры, хутчэй! закрыйце вусны ератыку!").

Пачэсныя браты! Вы заглушаеце мой голас, але далёка прыстайней вам было-б зважыць мае довады. Паверце мне гісторыю нельга перавярнуць па сваяму жаданьню, яна ёсьць і заўсёды застанецца самым энэргічным доказам проціў догмату папскай непагрэшнасьці. Вы можаце аднагалосна абвесьціць гэты догмат, але я ніколі не падам за яго голасу.

Монсіньоры! Шчыра веруючыя чакаюць з нецярплівасьцю ад нас помачы проціў тых шматлічных хваробаў, якія так апанавалі цяпер царкву; няўжо-ж вы абманеце іх надзеі? Якая будзе ваша адказнасьць перад Богам, калі мы пакінем бяз увагі гэты ўрачысты выпадак, пасланы нам Богам для ачышчэньня нашае веры? Выкарыстаем яго, браты узброімся сьвятою адвагай, зробім моцны і благародны высілак, зьвернемся да апостальскага вучэньня, бо без яго

ў нас адныя толькі блуканьні, цемра і ложныя праданьні.

Выкарыстаем наш розум, каб прызнаць непагрэшнымі вучыцялямі ў справе нашага спасеньня выключна апосталаў і пракрокаў.

Цьвёрдыя і непарушаныя на камені Сьвятога Пісаньня, мы з поўнай верай пойдзем перад тварам сьвету, і, падобна апосталу Паўлу, у прысутнасьці вольнадумцаў, мы будзем ведаць адзінага Ісуса Хрыста і сего расьпята. Мы атрымаем перамогу навукаю бязумьмя Крыжу, як Павал перамог вучоных людзей Грэцыі і Рыму,—і рымская царква будзе мець свой слаўны 89 год. (Крыкі: „Далоў! Вон пратэстанта, кальвіна, здрадніка царквы!").

Вашыя крыкі, монсіньоры, не палохаюць мяне. Хаця-ж мае словы і гарачыя, але мой розум халодны: я ні Кальвінаў, ні Паўлаў, ні Аполлосаў, але Хрыстоў (новыя крыкі: „анафема, анафема, адступніку!").

Анафема, монсіньоры, анафема. Вы добра ведаеце, што пратэстуеце не проціў мяне, але проціў сьвятых апосталаў, пад абаронаю якіх знаходзіцца сьв. царква. Ах! Калі-б яны маглі выйсьці з сваіх дамавінаў, няўжо-ж яны сказалі-б што незгаджалася-б з маімі словамі? Што вы скажаце ім, калі сваімі пісаньнямі яны кажуць, што папства ўхілялася ад Эвангельля Сына Божага, абвешчанага імі і ўмацаванага на зямлі іх крывёй? Няўжо-ж вы адважыліся-б сказаць ім, — мы лічым лепшымі ад вас нашых уласных папаў, нашага Бенлармiна, нашага Ігната Лайёлу? Не, не, тысячу разоў не, — калі толькі вы ня страцілі слуху, узроку, розуму. Ах! Калі Найвышэйшы Цар пажадае пакараць вас, — няхай далонь яго так-жа цяжка падзе на вас, як некалі на Фараона. Ен ня мае патрэбы дзеля гэтага дазволіць жаўняром Гарыбальдзі выгнаць вас з гэтага вечнага гораду. Яму варта толькі багатварыць Пія IX, як мы абагатварылі Сьвятую Дзеву.

Пакіньце, пачэсныя браты, вашыя пагражаючыя рухі, спасіце царкву ад згубы, якая пагражае ёй; шукайце толькі ў Сьвятым Пісаньні тое правіла веры, паводле якога мы павінны верыць. Я сказаў. Хай дапаможа мне Бог!

—:—

Гэтыя апошнія словы былі прыняты з такімі пратэстамі, як быцца усё гэта адбывалася ў тэатры, а не на саборы.

Усе айцы ўсталі, шмат пакінула салю. Шмат італьянцаў, амэрыканцаў і немцаў, а таксама некаторыя французы і ангельцы абкружылі адважнага прамоўцу і, прыязна цiснучы яму руку, выказалі поўную з ім згоду.

Гэтая прамова, якая ў шаснаццатым стагодзьдзі магла-б даставіць адважнаму япіскапу славу памерці на вогнішчы, у сучасную пару выклікала толькі варожасьць Пія IX і ўсіх тых, якія хочуць мець для сябе карысьць з народнае цемнаты. Бедныя сьляпцы, яны самі ўпадуць у тую яму, якую рыюць для іншых (Пс. VII, 16).

# Віленскі Епархіяльны Склад.

У № 4 „Беларускае Зарніцы" за 1928 год у сувязі з запытаньнямі духавенства аб тым, што сталася з маемасьцю Віленскага Епархіяльнага Складу, ад 15 лістапада 1926 г. з абазначаньнем таго, што, каму і на якую суму было перадана. Тады-жа было зазначана, што высьвятленьне справы аб Складзе было дадзена толькі часткова дзеля таго, што ня было дадзена адказаў на пытаньні: што сталася з маемасьцю склада пасьля 15 лістапа 1926 г.? Тады-ж было зазначана, што ёсьць дадзеныя для адказу і на гэтае пытаньне, але цяпер як-раз працуе Рэвізыйная Камісія, якая павінна будзе даць справаздачу аб „ліквідацыйнай" дзеяльнасьці склада, яе нармальнасьці і правідловасьці, карысьці, яснасьці і праўдзівасьці, запісаў у кнігах, а таксама і аб тым, колькі і на якую суму рэчаў прадана, куды грошы ўнесяны, і колькі і на якую суму рэчаў ёсьць.

З таго часу, як гэта пісалася, прайшло паўгода. Рэдакцыяй „Беларускае Зарніцы" атрымана шмат пытаньняў аб складзе. І вось, частковым, дзеля таго, што справа гэтая яшчэ будзе парушана на старонках „Беларускае Зарніцы", адказам на гэтыя пытаньні зьяўляецца зьмешчаная ніжэй выпіска з дакладу Рэвізыйнай Камісіі, закончыўшай сваю працу, Віленскай Духоўнай Кансісторыі наступнага зьместу.

„Пэрыяд кіраваньня пратаярэя М. Кушнёва праверены Камісіяй пры ўдзеле экспэрта бугальтара Д. М. Каюркіна па ведзяным ім кнігам, выкрыта добрая веда бугальтэрыі, але кнігі быццам наўмысьня вяліся так, каб немагчыма было выканаць апошняга заданьня, пастаўленага Кансысторыяй Камісіі — выясьніць тую суму, якая павінна быць унесена прат. М. Кушнёвым у даход Япархіі як працэнты ад камісіоннай прадажы тавараў.

Наколькі ўдалося выясьніць па кнігам і прадстаўленаму ў Камісію рапарту прат. М. Кушнёва, шкода, нанесеная Япархіі опэрацыямі прат. Кушнёва дасягае сумы каля трох тысячаў (3000) злотых, што падрабязна высьветлена ніжэй.

Пераходзячы да агульнае характэрыстыкі дасягнутых Камісіяй вынікаў ад праверкі прадстаўленых у яа распараджэньне кнігаў і дакумэнтаў, прыходзіцца сьцвердзіць, што аказалася магчымым высьветліць толькі некаторыя галіны опэрацый склада, і то ня з поўнай дакладнасьцю па гэткім прычынам: дзеля адсутнасьці патрэбных дадзеных і дакумэнтаў, хаотычнасьці запісаў і адсутнасьці дакладных, акуратна састаўленых здатачна-прыёмных опісаных актаў у перадатачныя мамэнты, калі склад пераходзіў з адных рук у другія.

З прыблізнай дакладнасьцю ўдалося высьвятліць стан даўжнікоў Складу (№ 10): са старонкі 36 гэтае кнігі заведзена запісь асабістых рахункаў даўжнікоў. Кожнаму даўжніку адведзена асобная старонка ў якой адзначана дата і сума одпуска тавараў і ўплаты грошаў. Апрача гэтага састаўлена агульная ведамасьць даўжнікоў Віленскага Епархіяльнага Складу да моманту пачатку працы Рэвізыйнае Камісіі, з выдзяленьнем у паасобныя рубрыкі даўжнікоў, застаўшыхся пасьля а. Коўша і а. Бяляева, першая рубрыка на агульную суму 334 зл. 45 гр., другая рубрыка на суму 4340 зл. 30 гр. даўжнікоў, паказаныя ў сьпіску а. Кушнёва, трэцяя рубрыка, значыцца многа даўжнікоў, на одпуск тавараў, якім ніякіх дадзеных у кнігах няма. Сумы, запісаныя на прыход у касавую кнігу, як зварот старых даўгоў, якія ні па якім кнігам ня значацца, паказаны ў чацьвертай рубрыцы чырвоным атрамантам. Пятая рубрыка агульная сума даўгоў, якія належыць прызнаць правідловымі, дзеля таго, што яны выведзены на падставе запісаў у кнігах за весь час ад Даўгаполенка—на 4674 зл. 75 гр.

Разважаючы прадстаўлены прат. М. Кушнёвым рапарт ад 2 кастрычніка, можна сьцвярджаць, што сума налічнасьці ня можа быць у паказанай там коль-

касьці на падставе хаця-ж бы толькі дадзеных самога-жа прат. М. Кушнёва, у касе пьвінны быць прынятыя ад прат. Бяляева 126 зл. 65 гр.; атрыманыя за праданыя епархіяльныя тавары 2831 зл. 21 гр.; працэнты за прадажы камісіонных тавараў — 1006 зл. 50 гр.; а ўсяго 3964 зл. 36 гр. З гэтае сумы вырасхадавана прат. М. Кушнёвым на вядзеньне апэрацыяў складу 1483 зл. 20 гр.

Дзеля таго, што другіх прыходаў не прадстаўлена, пазастаючаяся сума (3964 зл. 36 гр. — 1483 зл. 20 гр.) = 2481 зл. 16 гр. павінна быць у наліčнасьці.

Прыведзеныя вышэй сумы, паказаныя ў названым рапарце, асабліва сума прыхода ад прадажы епархіяльных тавараў, належыць лічыць неправідловымі.

Выходзячы з аднае касавае кнігі, агульная сума прыходу выражаецца ў суме 5169 зл. 86 гр., але і гэтая апошняя неправідлова дзеля таго, што ў прыход касавай кнігі заносілася адначасна і частка сумаў, атрыманая ад прадажы камісіоннага тавару. Адрожніць сумы ад прапажы тавараў епархіяльных ад атрыманых за тавары камісіонныя, немагчыма.

У тым-жа рапарце быццам на пакрыцьцё павіннай быць наліčнасьці паказана сум а „на даўгу лічыцца“ 2354 зл. 51 г. Гэтая сума зьяўляецца зусім неправідловай і ні на чым рашуча не абапертай па наступным прычынам: ні якому з прадстаўленых сьпіскаў даўжнікоў яна не адпавядае Факт, што гэта сума фікцыйная, сьцвярджаецца тым, што яна зьяўляецца рэгулюючай балянс наліčнасьці ў вышэйазначаным рапарце. Выясьнілася недастача некаторых тавараў, правераных на выдзяржку, бо ж не магчыма было зрабіць поўную праверку дзеля адсутнасьці ў кнігах прат. Кушнёва якіх-небудзь прыходны запісаў тавару. Такім чынам падлягаючымі праверцы аказаліся толькі такія тавары, аб якіх ведама, што іх запасы не папаўняліся, а ліквідаваліся толькі пазастаўшыяся ад часу кіраваньня Даўгаполенка. Не хапае: 93 абразы, 40 кіётаў, 4 фанары і аднае дарахраніцяльніцы.

З вышэйпададзенага вынікае, што пры прыйме Складу ад а. прат. Кушнёва, ён павінен здаць наліčнасьць касы ў суме 2481 зл. 16 гр.; вартасьць ня выстарчаючых вышэй пададзеных рэчаў і сумы, атрыманыя на пакрыцьцё даўгоў ад рожных царквоў і сьвяшчэньнікаў, не занесяныя на прыход касы, якія належыць праверыць шляхам апросу, карыстаючыся для гэтага далучаным да гэтага сьпіскам даўжнікоў (кн. № 10), з якіх Камісіі ўдалоося ўстанавіць гэта доўг Знаменскай Царкве ў Вільні на 112 зл.

Аднаму з сяброў Камісіі псаломшчыку Знаменскае Царквы гр. Шпілеўскаму ведама, што ў старасты царквы ёсьць рахунак, па якому грошы заплочаны 6 чэрвеня 1928 г., аднак-жа гэтая сума на прыход у касавую кнігу не запісана, а занесена ў кнігу даўжнікоў. 27 чэрвеня 1928 г.

Ведамасьць даўжнікоў, састаўленая Камісіяй павінна быць праверана па загаду Віленскае Духоўнае Кансісторыі шляхамі апросу даўжнікоў, аб якіх гаворана вышэй.

Пры гэтым немагчыма не зьвярнуць увагі на глыбока ненармальнае зьявішча, пры якім дапушчаны крэдыт у 4674 зл. 75 гр, пры агульнай вартасьці тавару Склада 6223 зл. 40 гр.: крэдыт немагчыма высокі, што так-жа зьяўляецца падставаю для хутчэйшага закліку даўжнікоў да ўрэгуляваньня сваіх рахункаў.

Старшыня камісіі
пратаярэй Уладзімір Жэброўскі.
Сябры: Г. Шпілеўскі
Д. Бохан.

Вільня,
5 красавіка 1929 г.
№ 33.

Зьмясьціўшы гэтую выпіску з даклада Рэвізыйнае Камісіі, Рэдакцыя зазначае, што яна ахвотна зьмесьціць паясьненьне паважанага прат. М. Кушнёва, калі ён захоча іх прыслаць з засьцярогаю, што яна захоўвае за сабою права паставіць шэраг новых пытаньняў з мэтаю дапамагчы паважанаму прат. М. Кушнёву высьветліць тое, чаго ня здоляла высьветліць Рэвізыйная Камісія— і праз гэта аслабіць моц тых закідаў, якія яму зроблены.

Рэдакцыя.

# Прыклад, заслугоўваючы вялікае увагі.

Усе газэты друкавалі весткі аб захаваньні сьвяшчэньніка і праваслаўнага насельніцтва ў Жабы на Валыні, калі ад праваслаўных хацелі адабраць іх сьвятыню-царкву.

Праваслаўныя на чале з сваім сьвяшчэньнікам Сагайдакоўскім восем дзён правялі ў царкве, у холадзе і ў голадзе, пры бязупыннай маліцьве.

Вось як апісвае гэтае нячуванае здарэньне ў афіцыяльным данясеньні пасол Сойму ВісLоцкі, які быў пасланы ў Жабчу Соймам.

„У момант маяго прыезду адбывалася заканчэньне адабраньня царквы паліцыяй. На мейсцы быў староста, камісар паліцыі, 38 паліцыянтаў, 4 агенты і доктар з Луцку. Праваслаўныя расказваюць страшэнныя рэчы: ад 20 лютага праваслаўныя зачыніліся ў царкве. Хто выходзіў з сярэдзіны царквы, таго паліцыя ўжо назад ня ўпускала. Былі там сьвяшчэньнік, жанчыны, дзеці і мужчыны. Большасьць іх пратрымалася да 1 сакавіка г.г. да моманту выдаленьня іх з царквы гвалтам праз паліцыю. Падчас выдаленьня праваслаўных з царквы ў ёй было больш 150 асобаў. Ні ежы, ні вады паліцыя ў царкву не прапусьціла. У холадзе, пры марозе дасягаўшым да 32°, без вады і хлеба людзі правялі ў царкве 8 дзён. 28 лютага паліцыя зьняла дзьверы царквы, каб мароз выгнаў праваслаўных з яе. Гэта не памагло. Пасьля гэтага ў царкву вайшлі два вуніяты, якія карыстаюцца ў сяле вельмі дрэннай апініяй і пачалі біць праваслаўных. Паліцыя вайшла ў царкву. Праваслаўныя — усе хворыя ляжалі без ніякага руху на падлозе сьвяшчэньнік, ня маючы сілы стаяць на каленах, адпраўляў Службу Божу. Усе прысягалі памерці за сваю веру. Паліцыя гвалтам ачысьціла царкву і зноў апячатала яе. 7 чалавек хворыя ад холаду і біцьця (прыхаджане і сьвяшчэньнік) закавана ў кайданы і адпраўлена ў Луцкі вастрог. Па дарозе ў цягніку, у якім я ехаў з імі, з арыштаванымі былі обмаракі з слабасьці. Выгляд людзей, 8 дзён правеўшых у голадзе і маліцьве, страшны. Яны пачарнелі, як вугаль, і ляжаць бяз сілаў.

Калі я прыехаў, яны цалавалі мне, як прадстаўніку Сойму, рукі і ногі за тое, што я іх адведаў у бядзе".

Блажэньнейшым Мітрапалітам Дзіанісам тэлеграфічна быў пераведзяны адпаведным уладам залог за іх у суме 3600 зл. дзеля звальненя іх да суда з вастрогу. Варты найвышэйшае пашаны пастыр-сьвяшчэньнік Сагайдакоўскі нагароджаны Яго Блажэнствам залатым крыжам.

Так апякуецца Вышэйшы Дастойнік духаўнікамі і жіранамі.

Тут мімаволі напрашваецца на параўнаньне „дзеяльнасьць на карысьць царквы" другога духаўніка, аб якім ужо пісалася на старонках „Беларускае Зарніцы"—аб пратаярэі Уладз. Жданаве, быўшым Лідзкім благачынным. Гэты духаўнік, атрымаўшы загад аб дапамозе перадачы Маламажэйскае царквы, ня толькі не запытаў сваю духоўную ўладу, як паступіць, хаця меў для гэтага даволі часу, але дапамагаючы гэтай сумнай для праваслаўных справе, яшчэ трусьліва шукае абароны ў іншых асобаў, чым выдае сябе з галавою.

І вось, калі „Беларуская Зарніца" піша аб „овах" і „евах", дык яна разумее пад імі на шчасьце ня ўсіх духаўнікоў. Добра ведама, што ёсьць шмат духаўнікоў на „овы" і „евы", і яны маўчаць, бо ведаюць, што іх заметка „Беларускае Зарніцы" не датычыць, — у іх „сумленьне чыстае".

**Сако.**

# Думкі вялікіх людзей аб коопэрацыі.

Коопэрацыя—новы шлях для зьдзейсненьня бажэсьцьвеннай запаведзі: любі бліжнага сваяго, як самога сябе.

І. Пітман.

Коопэратыўны рух мае больш вялікую мэту як дасягненьне выключна эканамічных вынікаў. Ен пабудаваны на пачуцьці любві да бліжняга і дзеля гэтага мае надзвычайна карысны ўплыў на жыцьцё людзкое наагул.

С. Хэгсбра.

Коопэрацыя можа аб'яднаць усіх людзей і ўсе рэлігіі.

Дзеля гэтага давайце ня ўцягваць у коопэрацыю клясавай барацьбы. Коопэрацыя здольна аб'яднаць усе клясы не дазваляючы пранікнуць ў яе сэрца разбураючую нянавісьць.

Коопэрацыя, шырака адчыняючы прад усімі свае дзьверы, наступова зьнішчыць у будучыні барацьбу клясаў.

Не магчыма зьмяніць сучасны сацыяльны парадак, захаваўшы ўнутраныя спрэчкі.

Вы добра ведаеце, што для дасягненьня нашае мэты перад усім неабходна выхаваць стойкіх і альтруістычных людзей.

Для лепшага ладу патрэбны і лепшыя людзі.

Э. дэ—Буаў.

---

# ХРОНІКА.

8 сакавіка г. г. адчынілася звычайная сэсія сьвяшчэннага сыноду праваслаўнае царквы ў Польшчы. Пад старшынствам Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзіанісія ў сэсіі бяруць удзел усе Епархіяльныя Архіяры ў Польшчы.

Газэты падаюць весткі быццам у недалёкай будучыні будзе скліканы Сусьветны праваслаўны Сабор. Паводле тых-жа вестак цяпер вядзецца падгатаваўчая праца для скліканьня гэтага Сабору.

---

# Пісьмы у Рэдакцыю.

Паважаны айцец Аляксандр!

Даўно зьбіраўся я напісаць Вам ліст, але ўсё ня было як! Дык толькі цяпер я змог гэта зрабіць. Перш за ўсё шчыра віншую Вас за тую царкоўную беларускую працу, якую Вы распачалі калі ў сьвет вышаў першы нумар „Беларускае Зарніцы". Недахоп царкоўнай беларускай часопісі сярод шырэйшага кола грамадзянства даўно вельмі адчуваўся! Ранейшыя выданьні царкоўнага беларускага тыднёвіка былі тым некарысным для беларусаў, што выдаваліся ў расейскім кірунку. Вось чаму зразумела мая і іншых беларусаў радасьць, калі мы ўбачылі першы нумар „Беларускай Зарніцы"! Нам трэба часопісь нацыянальная і беларуская. Каля яе, як каля роднага сьцягу, павінны згуртавацца ўсе тыя беларусы праваслаўныя, каму дорага справа адраджэньня роднай беларускай царквы! Барацьба нам праваслаўным беларусам будзе вялікая, асабліва беларускім сьвяшчэньнікам, дзякам і іншым духоўным асобам. Усе паважныя ўстановы царкоўна-праваслаўныя на беларускіх абшарах моцна абхоплены расейцамі, альбо спачуваючымі апошнім! Вось чаму гэтак патрэбна выданьне свайго царкоўнага беларускага тыднёвіка. Праз яго і пры ім мы збярэм з усіх куткоў беларускіх япархіяў, сьвяшчэньнікаў, дзякоў, законьнікаў, і іншых духоўных асобаў у адзін моцны і цесны зьвяз дзеля працы на карысьць роднай беларускай царквы. Да гэтае мэты трэба па крысе і наступоваісьці. Пачынаючы ад 1917 году белару-

скі рух пачаў вельмі шырыцца ва ўсіх галінах белаўускага адраджэньня і толькі ў галіне царкоўнай да 1827 году быў вялікі заняпад. Праўда, рабіліся такія-сякія справы, але без ніякога выніку. Чаму?! Бо за гэтую працу браліся людзі мала веруючыя. альбо беларусы толькі па імяні! Нам праваслаўным беларусам апрача царкоўнай часопісі яшчэ вельмі і вельмі бракавала адсутнасьць свайго запраўднага беларускага царкоўнага саюзу альбо і чалавека; і вось, гэтакім моцным барацьбітом у сучасны момант, у асобе паважанага рэдактара „Беларускай Зарніцы“, мы праваслаўныя беларусы маем і асабліва паважаем! Калі і далей будзе выходзіць „Беларуская Зарніца“ дык шліце дзеля пашырэньня і заахвочываньня да падпіскі на мае імя колькі нумароў.

Застаюся з пашанаю

**Ук. Маеўскі.**

---

Да паважанага Айца рэдактара „Беларускае Зарніцы“!

Нядаўна я пачаў атрымліваць Вашую паважаную часопісь, якая вельмі мяне пацешыла сваім высьвятленьнем царкоўных справаў і патрэбаў. Мяне вельмі ўцяшыла, што мы ўжо маем часопісь у свaёй роднай беларускай мове, якая бароніць нашыя справы ў рэлігійным жыцьці.

Грамадзянства вельмі шчыра дзякуе Вам, паважаны Айцэц рэдактар за ахвярную працу, якую вы складаеце на карысьць праваслаўнага народу.

Няхай Гасподзь Бог умацуе Вас у далейшай працы на карысьць Хрыстовае Царквы.

Грамадзяне вёскі Любкі гм. Вайстамскай: **С. Краўчэнка, Н. Сіцько, Я. Сіцько**; грамадзяне вёскі Грэлікі, гм. Вішнеўскай: **Сьцяпан Латчук, А Касяк**; грамадзяне вёскі Іжань: **Мацьвей Шарэц, А. Шарэц, М. Кезік, М. Лях.**

---

# Адказы Рэдакцыі.

Усім сьвяшчэньнікам, псаломшчыкам царкаўным старастам і іншым міранам прыслаўшым пісьмы з пытаньнямі, чаму ня склікаецца Епархіяльны зьезд Віленскае Япархіі і калі ён будзе скліканы, Рэдакцыя на падставе вестак, атрыманых з высака аўтарытэтнае крыніцы, падае да ведама, што зьезд ў 1929 годзе будзе скліканы, але час яшчэ ня вызначаны. Магчыма, што зьезд будзе скліканы ня толькі з духавенства, але і з прадстаўнікамі ад міран. Яго Сьвяшчонства Уладыка Хведосій адносіцца да скліканьня зьезду прыхільна.

Ракачу, Астапчыку, Хведасюку, Трахімчыку, Грынсю, Трусю, Печку, Сярмязі: „Беларуская Зарніца“ высылаецца, — прысылайце падпісную плату.

Царкоўнаму Старасьце Сяргею Бандару, папячыцелю Язэпу Казлу і М. Касяку:

Ад усіх пададзеных Вамі фактах даведзена да ведама адпаведнае Духоўнае Улады.

---

# ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22